У краіне фальклору

# ЖАЎНА-будаўнік пчалінага жылля

Вялікі чорны дзяцел паводле беларускіх міфалагічных паданняў – гэта пчаляр-бортнік, ператвораны Богам у птушку за тое, што не святкаваў у нядзелю, а выдзёўбваў у сасне борць для пчол.

Іншы варыянт падання таксама гаворыць пра пакаранне Богам пчаляра пераўтварэннем яго ў птушку за той самы грэх – працу ў нядзелю, толькі ўжо чалавек рабіў засекі на дрэве, у якім была выяўлена пчаліная сям'я (такія знакі – засекі былі ў кожнага бортніка, якія сведчылі пра права на пчол).

За несвяткаванне нядзелі чалавек, ператвораны ў Жаўна, павінны цяпер штодня, у будні і ў святы, дзяўбці дрэвы, рабіць у іх вялікія дуплы. Гэтыя паданні маюць пад сабой рэальны грунт: Жаўна любіць старыя хваёвыя лясы, дзе ў тоўстых дрэвах нястомна выдзяўбае дуплы для гнездавання. Новым дуплом Жаўна карыстаецца ўсяго адзін год, потым рыхтуе іншае, а ранейшае займаюць іншыя птушкі, вавёркі, куніцы і лясныя пчолы, якіх некалі было вельмі многа ў нашых барах, а борцевае пчалярства практыкавалася яшчэ ў пачатку XX стагоддзя.

Так што Жаўнаў прыродным ланцугу ўзаемазалежнасцяў выступала сапраўдным працаўніком, які забяспечваў жыццё для пчол. З-за афарбоўкі (чорны колер, чырвоная "шапачка") ў Жаўна склаліся няпростыя стасункі з чалавекам, яна любіць ціхія мясціны, дзе яе не палохаюць.

Яе не часта можна ўбачыць, назіраць за яе жыццём. Адсюль дастатковая таямнічасць, незвычайнасць птушкі. Чырвоная "шапачка" на галаве гаварыла народнаму ўяўленню пра сувязь Жаўна з агнём, а рэзкі крык "піць, піць" перад дажджом стаў добрай прыкметай змены стану надвор'я, перамены на дождж.

Крык Жаўна, як і крык кані-кнігаўкі і некаторых іншых птушак, у паданні тлумачыцца тым, што Жаўна не ўдзельнічала ў капанні рэк і іншых вадаёмаў, за гэта пакарана: не можа піць вады на зямлі, а толькі дажджавыя кроплі. Ёсць іншыя прыкметы: калі Жаўна ці іншы дзяцел дзяўбе сцяну ці вугал хаты, гэта значыць, што ў хаце нехта памрэ.

У рускіх падзёўбанае бервяно лічылася怎ват непрыгодным для будынку, а толькі на дровы. Такім чынам, Жаўнам надаецца шмат рысаў, якія робяць яе вешчай птушкай, звязваюць са светам чалавека і светам духаў, а яе сувязь з божай жывёлай – пчалой – надае ёй больш станоўчай значнасці.



Кола гісторыі

# Наша дзяржава клапацілася пра пчол

Бортнае пчалярства без перабольшання можна назваць адным з самых старых і архаічных промыслаў на Беларусі. З часоў Вялікага Княства Літоўскага яно эвалюцыянавала нязначна і дажыло ў асобных мясцінах да XXI ст у амаль не кранутым выглядзе. Сур'ёзная эвалюцыя напаткала яго толькі аднойчы, блізу XV ст, калі на змену борцям, зробленым у стаячым дрэве, прыйшлі бортныя калоды ці вуллі. Пачынаючы з гэтага моманту і ажно да самага XX ст калоды амаль цалкам выцеснілі класічныя борці і непадзельна дамінавалі ў пчалярскай справе Беларусі ажно да Другой Сусветнай вайны.



На працягу стагодзьдзяў бортніцтва задавальняла патрэбы жыхароў нашай краіны ў мёдзе і іншых прадуктах пчол, а мёд і воск былі галоўным відам экспарту. У якасьці адзінкі абмену выступаў і другі не меней каштоўны прадукт пчалярства – воск, адліты ў кругі пэўнай вагі.

У часы ВКЛ бортніцтва (ў той час калоднае бортніцтва) дасягнула найвялікага роськвіту, асабліва ў якасьці адной з добрых і надзейных крыніцаў папаўненьня княскага скарбу праз выраб бортных прадуктаў: мёду, прапалісу, воску – асноўныя вывозныя прадукты ў часы ВКЛ. Дзякуючы гэтаму промысел мае свае асабістыя разьдзелы Статута Вялікага Княства Літоўскага.

Па меры распаўсюджваньня і ўдасканальвання бортніцтва складалася і бортнае права — спачатку звычаёвае, а затым пісанае, дзяржаўнае.

Побач з заканадаўчымі актамі па ахове бортніцтва стаяла і звычаёвае права, якое іншы раз, асабліва ў глухіх раёнах Палесься, было больш дзейсным. Крадзеж мёду здаўна лічыўся амаль такім жа цяжкім злачынствам, як і забойства. Мянушка пчаладзёр на ўсё жыццё ганьбіла злодзея, ставіла яго па-за межы грамады.

Найболей грунтоўна бортнае заканадаўства на Беларусі было распрацаванае ў XVI стагоддзі — у трох рэдакцыях Статуту Вялікага Княства Літоўскага ад 1529, 1566, 1588 гадах выданьня. Кожны з іх змяшчаў артыкулы, што тычыліся бортніцтва.

**АРТЫКУЛ 6**

**Хто б меў спрэчку аб борцях або аб уваходах у пушчу**

Таксама ўстанаўліваем: хто б меў спрэчку аб борцях або аб уваходах у пушчу і жадаў бы каго ад борцяў і ад уваходаў выцесніць, а як-небудзь чые борці або ўваходы хто перадаў у чужыя рукі, як гэта часта робіцца паміж мужыкамі, што з-за недахопу выплаты даніны прадае пчол або за дачкой дасць зяцю ў чужое сяло дрэва з пчоламі, а з-за таго забранья адбываюцца спрэчкі і сваркі паміж суседзямі, а той, хто атрымаў борці, накладзе на іх свае знамёны і на падставе тых знамён новыя ўваходы ў тую пушчу будзе мець. І за тым таго першага, хто раней трымаў гэтыя ўваходы, выцясняў з іх і была б аб гэтым спрэчка, тады суд павінен прысудзіць знамёны на дрэве агледзець, і чыё знамя будзе старэйшае і больш уросшае, таму павінен прысудзіць борці і ўваходы ў пушчу. А тыя, хто такія свае новыя знамёны будуць рабіць у чужым уладанні, не павінны хадзіць туды, а шкоду за пашкоджанае дрэва павінны заплаціць паводле закону, ніжэй апісанага. І ўжо з гэтага часу хто б з нашых падданых, а таксама падданых княжацкіх, панскіх і зямянскіх адцаў дрэва бортнае з уладання сваіх паноў, падарыўшы або якім іншым чынам перадаўшы ў чужыя рукі, такога можа пан яго караць, паводле важнасці ўчынку, а тое дрэва павінна быць вернута таму пану, чыё яно перш было.

**АРТЫКУЛ 13**

**Закон аб бортным дрэве**

Хто б пашкодзіў чужое бортнае дрэва з пчоламі, сасну, або дуб, або іншае бортнае дрэва, корань у зямлі падсек, або агнём абпаліў, або як-небудзь ненаўмысна, выпадкова папсаваў, той за кожнае дрэва з пчоламі абавязаны будзе заплаціць па дзве капы грошаў, а за пашкоджанае дрэва без пчол – капу грошаў, за прызначанае на борць дрэва – паўкапы грошаў. А хто б гвалтоўна, наўмысна выцясняючы каго з зямлі або з уваходаў спрадвечных, або таксама зладзейскім чынам абсек або спаліў бортнае дрэва, або знамёны высек, або агнём выпаліў, а гэта было б даказана, тады павінен таму пану, чыё дрэва, так заплаціць: за борць з нявыбраным мёдам – тры рублі грошаў, за дрэва бортнае, у якім раней былі пчолы, хаця б і без пчол, сапсаванае, – па дзве капы грошаў, за дрэва, на борць выраблене, дзе пчолы яшчэ не былі, – капу грошаў, а за прызначаныя на борць дрэвы, колькі б іх пашкодзіў, – за кожнае па паўкапы грошаў.

**АРТЫКУЛ 14**

**Цана пчолам**

Калі б хто выдзер у каго іншага пчол з нявыбраным мёдам, але дрэва не пашкодзіў, то абавязаны будзе за кожную пчаліную сям'ю заплаціць дзве капы грошаў. Калі б хто каму каля дома, або на пасецы, або ў лесе на дрэве з вулля або са зробленага для іх дупла пчол выдзер або з вуллем забраў, а выкрылі б яго капою або якім следствам, тады павінен заплаціць тры рублі грошаў, акрамя калі б каго злавілі на месцы злачынства — такога, як злодзея, павінны прысудзіць да смяротнага пакарання. А хто б вулей у чыім-небудзь лесе наўмысна пасек і мёд выбраў, той за гэта павінен заплаціць шэсць рублёў грошаў.

*Працяг у наступным нумары.*

Тэхналогія

# Дешево и удобно



Ковалец Сергей, Солигорский район, в пользовании 230 пчелосемей, ульи многокорпусные и лежаки, порода карника и бакфаст, стаж в пчеловодстве 11 лет.

За период работы с пчелами пришлось пользоваться различными кормушками: верхними и боковыми, деревянными и пластмассовыми, ведерками и полиэтиленовыми пакетами. И по мере роста семей на пасеке все они впоследствии становились непрактичными в работе или их последующего хранения. На сегодняшний день можно смело сказать, что на рынке Беларуси нет кормушки, удовлетворяющей пчеловода-профессионала по цене и качеству.

Я считаю, кормушка должна обладать следующими требованиями:

1. Изготовлена из пластмассы - не протекает, хорошо моется, долговечная.
2. Оптимальный объем - от 5 до 10 л.
3. После завершения подкормки при складировании до следующего кормления должна занимать минимальный объем.
4. Обладать возможностью не губить пчел в процессе очередного наполнения сиропом.
5. Дешевая по стоимости.

Считаю, указанным требованиям соответствует пластмассовый контейнер на 5,8 л, приспособленный для кормления. Использовать его можно в Даданах, но практичнее в многокорпусниках. Ставится поверх рамок (на потолок, холстик, пленку). Благодаря плоскости стенок он плотно прилегает к стенкам улья и пчелы беспрепятственно проходят к сиропу. Лучшим наполнителем является солома, и при очередном наполнении кормушки сиропом пчелы не гибнут. Стоимость всего 3,5 руб. Для крупных пчеловодов объем кормления в 5,8 л недостаточен и поэтому целесообразно использовать 2 контейнера одновременно. После завершения кормления они складываются один в один и занимают совершенно малый объем.

**Подготовила Ольга Протасеня**



## Прадаць – купіць

**ПРАДАМ:**

- пчалапасеку (вуллі, пчаласем'і, медагонку 4-рамовую, васкатопку і інш), Салігорскі раён, тэл.+375 44 738 09 25, Міхаіл Леанідавіч;
- пчаласем'і з вуллямі альбо без вуллёў, кошт па дамоўленасці, Нясвіжскі раён, тэл. +375 29 150-30-01, Цімафей Трафімавіч;
- платформу на 22 вуллемесца, з падсобным памяшканнем, з пчаламі альбо без, кошт па дамоўленасці, Салігорскі раён, тэл. +375-505-09-08, Сяргей Мікалаевіч (гл. фота)



## Справы Бортніка

# Взносы – 2022

**Взносы.** Бюджет объединения "Бортник формируется из членских и вступительных взносов. Количество и качество деятельности организации напрямую зависит от финансового состояния. По состоянию на 20 августа уплатили взносы 420 пчеловодов, в том числе по тарифам:

- Профессионал – 131
- Любитель – 203
- Семейный – 86

Всего собрано 9 530 рублей.

В соответствии с решением Совета Объединения (протокол № 4 от 27 июня 2022 года) при уплате взносов в IV квартале текущего года их размер увеличивается. Также с IV квартала отменяется льгота по размеру взносов для:

- членов Совета и ревизионной комиссии;
- Почетных и Старейших пчеловодов "Бортника";
- инвалидов I, II и III группы;
- членов Объединения в возрасте 80 и более лет.

**Размер взносов при уплате в III или IV квартале 2022 года.**

| Тарифы | Рублей, при уплате в: | |
|---|---|---|
| | III кв | IV кв |
| профессионал | 35.00 | 50.00 |
| любитель | 25.00 | 30.00 |
| семейный | 8.00 | 10.00 |

***Предлагаем уплату годовых взносов произвести в III кв текущего года.***



## Смуткуем



**Трагічная вестка прыйшла ў «Бортнік»**

12 жніўня на 70 годзе памёр былы кіраўнік «Гроднааблпчалярства»

**ШЭЛУДЗЯКОЎ ВАЛЕРЫЙ МІХАЙЛАВІЧ**

**Рада аб'яднання «Бортнік» выказвае спачуванне родным і блізкім памерлага.**

## Выпадак з жыцця

# Бортнік з сівой галавой



У дзвюх групах на стацыянарным навучанні ў Смілавіцкай школе пчаляроў займалася 40 навучэнцаў. Навучанне працягвалася год: з сярэдзіны лютага да лютага наступнага году.

Праўда, не ўсе, хто спачатку паступіў на вучобу, дайшлі да фінішу па розных абставінах. Каго адлічылі за недысцыплінаванасць і ганебныя ўчынкі, хто сам пакінуў сцены былога панскага маёнтка, а нехта перайшоў на вучобу ў сельгастэхнікум, пад "крылом" якога знаходзілася і вучальна пчаляроў.

Апрача стацыянару ў зімовы час былі наладжаны месячныя курсы па набыцці тэарэтычных ведаў для пчаляроў-практыкаў грамадскіх пчолапасек. Прыехалі пчаляры з усіх куткоў Беларусі. Кантынгент люду быў незвычайны. Гэта трэба было бачыць уласнымі вачамі, бо на словах – не расказаць, на паперы – не абмаляваць. Угладаючыся ў твары і постаці гэтых людзей, у асноўным вельмі сталага ўзросту, інвалідаў, думалася: колькі ж яшчэ можа пратрымацца пчаліная галіна, калі не адбудзецца замена маладымі пчалярамі?

Сярод усіх пчаляроў-практыкаў выдзяляўся дзядуля з сівой барадой. У даматканай ільняной кашулі, падперазанай на поясе вяровачкай, звітай з пянькі, ён выдзяляўся найперш сваёй апраткай і знешнасцю. У перапынках між заняткамі дзядуля быў акружаны натоўпам навучэнцаў абодвух аддзяленняў. Хто смяяўся з яго аповедаў, якія былі прасякнуты з гісторый пчалінага свету, а хто стаяў з разяўленым ротам, слухаючы цікавосткі.

Ведама, маладыя хлопцы-жэўжыкі, як ён трапна іх называў, хацелі пакпіць з дзеда, але той усё перакладаў у рэчышча жартаў.

На занятках адзін з нашых навучэнцаў запытаўся ў выкладчыка па развядзенні і ўтрыманні пчол, былога франтавіка Шыла Івана Пятровіча:

– Што гэта за дзед-дзівак, што ўсіх смяшыць?

– Вы не смейцеся над гэтым дзедам. У яго вельмі цяжкі лёс. А па-другое, ён на ўсе калоды пададзіў і замацаваў магазіны і атрымлівае шмат мёду. Нават навучыўся самастойна заменьваць матак. Мінулым летам, наведваючы яго пасеку, я ўбачыў шмат чаго цікавага – распавёў выкладчык.

Гэтакая водпаведзь натхніла іншых навучэнцаў на нейкі роздум, дзядуля раптам апынуўся ў пашане.

У той далёкі час яшчэ шмат хто вадзіў пчол у калодах, выдзеўбаных са ствала дрэва. Вуллі дадананаўскія лічыліся дасягненнем і былі не ва ўсіх. Тым болей пра магазіны нават было слабое ўяўленне – што гэта такое, і як яно выкарыстоўваецца. Нам такое сенсацыйнае паведамленне ўяўлялася таксама немагчымым, але мы ўсе верылі нашаму выкладчыку.

Пасля заняткаў быў вольны час, і я вырашыў скарыстацца ім, каб бліжэй пазнаёміцца і пагутарыць з незвычайным пчаляром. Тым больш, што цікавіла мяне ўсё, што датычылася гісторыі пчол.

Зайшоўшы ў пакой інтэрната, дзе размясцілі пчаляроў-практыкаў, я сеў на ложак насупраць бортніка з сівой барадой і пачаў сваю гутарку здалёк, каб нейкім чынам, слова за слова, паступова між намі ўзніклі, хай не сяброўскія, дык хаця б прыязныя стасункі.

Пачаўшы размову пра ўсё надзённае, незаўважна перавялі гутарку пра пчол, а потым і пра асабістае ў жыцці. І вось што давялося мне пачуць.

– У свой час бацькі мае і я з сям'ёй жылі на хутары, акружаным з усіх бакоў лесам і балотам. Трымаў бацька шмат калод з пчаламі ля хаты. Былі і ў лесе на дрэвах. Спачатку ўлада забрала ў нас усю рухомую маёмасць за няўплату быццам падаткаў у агульны кацёл. А падаткі былі непасільныя.

Потым забралі ўсе калоды, якія былі з пчаламі. Прызналі нас кулакамі, хаця з паўсядзённага абутку апроч ліповых лапцяў у нас нічога не было. Жыць і працаваць – спакою не давалі.

Зімовай ноччу людзі са зброяй вымусілі ўсю нашу сям'ю пакінуць вуглы родных хат і выехаць у апошні шлях на сваіх конях пад канвоем да чыгуначнай станцыі.

Апынуліся мы на самай паўначы Комі АССР у жудасных умовах, у холадзе і голадзе, працуючы штодня на лесапавалах, людзі гінулі, як мухі. Даводзілася не адзін раз мне складваць мёрзлыя трупы штабялямі. Пахаваў я там бацькоў, жонку і дзяцей. Адзін сын толькі застаўся. У далейшым ён вывучыцца і стане вядомым мастаком у Маскве (заўвага А.Б.).

Пэўным часам дазволілі выезд з месцаў пасяленняў – з лагераў. Што было рабіць? Заставацца там не было ніякага жадання. Вырашыў ехаць туды, дзе пуп быў закапаны. Вярнуўся. Галеча, разруха пасля вайны. А з нашага хутара расцягнута ўсё – амаль усё, бо засталася стопка, якая ўцалела ад усіх віхураў. Навокал, дый у лесе таксама, валялася без справы некалькі патрэсканых, часам пабітых і падгнілых калод.

Як мог, даводзіў іх да ўжытку, засяляючы спачатку прылётнымі, а потым і сваімі раямі. Ручыца пачалі пчолкі на зайздрасць гультаям. Старшыня гаспадаркі прапанаваў, каб даглядаў і іх пчол. Вось так і маюся зараз на гэтым свеце.

Шмат аб чым яшчэ нагаварыліся, але сумная гісторыя чалавека з пакалечаным лёсам да глыбіні душы ўразіла. Глядзячы ў выцвілыя ад часу вочы суразмоўцы, нельга было не заўважыць стомленасці ад шматлікіх пакут, якія давялолся вынесці яму і не страціць дабрадушнасці. Застаўся чалавекам, нягледзячы на перажытае, шмат чаго страчанае.

Успамінаючы мінулае, падумалася вось аб чым. У маладосці мала хто прагне шчырых размоў, сустрэч з людзьмі сталага веку. А ім смыліць, цяжка на сэрцы ад перажытага. Між маладымі і старымі быццам мяжа пралягае – маладым да нейкіх размоў нешта замінае. Шчырая размова старога чалавека з маладым – гэта сувязь пакаленняў, шмат у чым навука на будучае.

Нельга адмахвацца і забываць пра тое, што перажылі нашы дзяды і прадзеды.

Мудры чалавек сказаў, што народ, які не хоча ведаць сваёй гісторыі, не мае будучыні. Гэтае выслоўе актуальнае заўсёды і гучыць, як звон папераджальны.

**Алег Белікаў**


Навіны пчалярства

Газета для пчаляроў

**Заснавальнік і выдавец газеты** ТАА «Пчалярства – Бортнік»

**Пасведчанне** № 1742 ад 10 лістапада 2014 года

Перыядычнасць выдання - адзін раз у два месяцы

За дакладнасць інфармацыі адказнасць нясе аўтар артыкула.
Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе дасланыя матэрыялы, не разглядае ананімныя звароты і просіць не высылаць арыгіналы дакументаў.
Рэдакцыя па сваім меркаванні адбірае і друкуе адрасаваныя ёй лісты, пры неабходнасці рэдагуючы і скарачаючы іх. Ніхто не мае права абавязаць рэдакцыю публікаваць адхілены ёй матэрыялы, акрамя выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам аб СМІ. Передрук толькі з пісьмовага дазволу рэдакцыі.

**Галоўны рэдактар:** Наталля Ляўковіч

**Рэдакцыйны Савет:** Павел Вераб'ёў, Васілій Кавалец, Тамара Жукава, Іна Хаценка

**Вёрстка і дызайн** Іна Хаценка

**Юрыдычны і паштовы адрас:**
Мінская вобл., г. Салігорск, 223710, вул. Заслонава, 12
Тэл.: (8-0174) 24-68-41
**e-mail: bortnik-saligorsk@tut.by**

Кошт свабодны. ***Бортнікам- бясплатна***
Выдаецца на беларускай і рускай мовах
**Надрукавана ў ТДА «Знамение»**
вул. Каржанеўскага, 14, г. Мінск, 220108
ЛП № 02330/85 ад 29.03.2004 г.
**Падпісныя індэксы: 63251, 632512**

**Заказ** № 135
**Тыраж** 1000
Нумар падпісаны да друку 29.08.2022 г.

ISSN 2412-0502